# СЛОНІМСКІ КРАЙ

№ 3, красавік 2016

Краязнаўчы бюлетэнь



## У НУМАРЫ:

**Праблема лакалізацыі гістарычнага цэнтра Слоніма**
*Чытайце на стар. 3*

**З успамінаў пра даследаванні Жыровіцкай святыні**
*стар. 7*

**З мінуўшчыны Слоніма і слонімскай зямлі**
*стар. 8*

**Даследаванне, перапоўненае ідэалагічнымі штампамі**
*стар. 9*

**Планы Слоніма ў фондах ГДГАМ**
*стар. 10*

**Слонімскае этнаграфічна-археалагічнае таварыства (1924-1928)**
*стар. 11*

**У Жыровічах і Слоніме выходзілі падручнікі па batаніцы**
*стар. 13*

**Невядомы аўтабіяграфічны твор Сяргея Хмары**
*стар. 14*

- Што такое Слонімшчына?
- Гэта наша Беларусь!
- Што такое Беларусь?
- Гэта наша Ўсё!

## Дзе быў старажытны слонімскі замак?



*Крыжакі падчас паходу на беларускія землі
Малюнак з кнігі А. Краўцэвіча “Тэўтонскі ордэн: ад Ерусаліма да Грунвальда” (Мінск: Навука і тэхніка, 1993)*

Дагэтуль працягваюцца спрэчкі: дзе ж быў старажытны слонімскі замак? Раскопкі на Замчышчы каля цяперашняй Опернай вуліцы паказалі, што паселішча там існавала ўжо ў XI стагоддзі. Тым не менш, археолаг і краязнаўца Васіль Супрун лічыў, што на левабярэжжы Шчары было толькі ўмацаванае гарадзішча, а першы слонімскі замак узнік на правабярэжжы — на месцы такога ж гарадзішча, якое знаходзілася ў больш зручным месцы (такой версіі трымаўся і археолаг, краязнаўца Язэп Стаброўскі). Гэтае Замчышча было знішчана ў 1880-я гады падчас будаўніцтва чыгункі.

*Працяг на стар. 2*

## 90 гадоў з дня нараджэння Васіля Супруна

10 сакавіка 1926 года ў вёсцы Глоўсевічы нарадзіўся таленавіты жыхар Слонімшчыны з цяжкім жыццёвым лёсам — Васіль Рыгоравіч Супрун, унёсак якога ў вывучэнне роднага края немагчыма пераацаніць. Яго кнігі і сёння карыстаюцца вялікай пашанай і папулярнасцю. Праведзеныя ім археалагічныя даследаванні здзіўляюць сваім маштабам і ахопам.

Апантаны любімай справай чалавек, да самай смерці самааддана працаваў на карысць роднага края. Напамінам пра Васіля Рыгоравіча Супруна слонімцам




застаюцца яго кнігі, сярод якіх вылучаецца «Дзеі над Шчарай».

*Чытайце пра В. Супруна на стар. 5*

# Дзе быў старажытны слонімскі замак?


SCRIPTORES
RERUM PRUSSICARUM.

DIE GESCHICHTSQUELLEN
DER
PREUSSISCHEN VORZEIT
BIS ZUM
UNTERGANGE DER ORDENSHERRSCHAFT

HERAUSGEGEBEN VON
DR. THEODOR HIRSCH, DR. MAX TÖPPEN
UND
DR. ERNST STREHLKE.

ZWEITER BAND.
MIT EINEM FACSIMILE UND DEM REGISTER ZUM 1. UND 2. BAND.

LEIPZIG
VERLAG VON S. HIRZEL.
1863.

У 1506 годзе слонімскі замак на Замосці быў спалены крымскімі татарамі і ўжо не аднавіўся, яго ў наступнае дзесяцігоддзе наноў пабудавалі на левабярэжжы Шчары, меркаваў Супрун[1].

Пацвердзіць альбо абвергнуць версію В. Супруна могуць найперш комплексныя археалагічныя даследаванні, але яны патрабуюць значных фінансавых выдаткаў, таму адкладзены на неакрэсленую будучыню[2]. Нам застаецца толькі шукаць прамых альбо ўскосных сведчанняў у пісьмовых крыніцах пра размяшчэнне слонімскага замка ў XIII ст. — пачатку XVI ст. Яшчэ ў 1863 годзе быў апублікаваны дакумент, складзены ў Тэўтонскім ордэне ў канцы XIV стагоддзя — “Die Littauischen Wegeberichte” (“Паведамленні пра літоўскія шляхі”)[3]. У ім нас цікавяць згадкі пра Слонім, і яны там ёсць.

Адзін з тэўтонскіх выведнікаў прыблізна пад 1385 годам апісаў “летнюю выправу з Ваўкавыска да Навагрудка” (гэта была інструкцыя для рыцараў-удзельнікаў набегаў на землі Вялікага княства Літоўскага). Ён піша:

“Першую ноч начуюць у Ваўкавыску, другую ноч начуюць на нейкай рацэ [на Зяльвянцы], якая знаходзіцца ў адным пераходзе ад Ваўкавыска, праз якую даводзіцца перапраўляцца, і паміж імі даволі адкрытая дарога; адтуль адзін пераход да Слоніма, на раку, якая завецца Шчара, там трэба перапраўляцца, і каб перайсці праз раку, трэба праз адзіны мост прарывацца стрэламі з арбалета”[4].

Як бачым, апісваецца падыход да Слоніма з захаду. Ніякіх перашкодаў да Шчары крыжакі не бачаць, пра замак на левабярэжжы ці нейкія ўмацаванні перад мостам не згадваюць. Затое звяртаецца асаблівая ўвага на пераправу на правабярэжжа. Найбольшыя складанасці ёсць з перакладам са старанямецкай мовы апошніх слоў. Дапушчальныя таксама наступныя варыянты: прарывацца пад стрэламі арбалета; магчыма, маецца на ўвазе сігнал стрэлам з арбалета, альбо нават згадваецца адлегласць на стрэл арбалета (а гэта некалькі соцень метраў). Ці не сведчыць гэта пра тое, што на правым беразе на мосце была варта, альбо нават уязная вежа?

Яшчэ раз падкрэслім, што гэта толькі ўскоснае пацверджанне існавання ў канцы XIV ст. на правабярэжжы Шчары слонімскага замка. Але яно заахвочвае да далейшых пошукаў.

**Сяргей Ёрш**

*1. Больш падрабязна пра версію Васіля Супруна з абгрунтаваннямі гл. у наступным выданні: Супрун В. Дзеі над Шчарай: (З гісторыі зямлі Слонімскай). Слонім, 2000, с. 34-37.*

*2. Іванова Н. Археолаг: ”Гісторыя Слоніма захоўваецца ў зямлі і чакае свайго часу” // Газета Слонімская, 2015, № 40, 30 верасня.*

*3. Scriptores rerum Prussicarum: die Geschichtsquellen der Preussischen Vorzeit bis zum Untergange der Ordensherrschaft. Leipzig, 1863, s. 662-711.*

*4. Таксама, s. 706. Аўтар удзячны Сяргею Богдану за дапамогу ў перакладзе тэксту са старанямецкай мовы.*

Старыя фотаздымкі

## Нямецкі тэлеграфіст каля рэштак лесапільнага завода



У верасні 1915 года Слонім быў заняты нямецкімі войскамі. Пачаўся цяжкі перыяд саракамесячнай акупацыі, за які нямецкія салдаты зрабілі вялікую колькасць фотаздымкаў з краявідамі нашага горада. Многія з іх быліператвораны ў паштоўкі, якія тыя дасылалі сваім родным у Германію.

Таксама многія выявы засведчылі вынікі тых разбурэнняў, якія горад зведаў пасля артылерыйскай баталіі паміж рускімі і нямецкімі войскамі ў першы месяц восені 1915 года.

Адным з актыўных фатографаў Слоніма выступіў тэлеграфіст В. Вейраўх.

У дадзеным выпадку прадстаўлены здымак, зроблены ў 1916 годзе на рэштках разбуранага лесапільнага завода Дубінбаўма. які цягнуўся паабапал Агінскага канала і старога рэчышча Шчары ад Набяражнага завулка да чыгункі.

Завод Цодаха Дубінбаўма да вайны ў асноўным займаўся вырабам чыгуначных шпал.

У міжваенны час завод быў аднаўлены, а пасля 1939 года тут дзейнічаў савецкі лесазавод, тэрыторыя якога пазней адышла рамесніцкаму вучылішчу.

**В.Г.**

# Праблема лакалізацыі гістарычнага цэнтра Слоніма

Пытанне месцазнаходжання гістарычнага цэнтра Слоніма характарызуецца наяўнасцю двух поглядаў на дадзеную праблему:

1) І.І. Стаброўскага, падтрыманага і перапрацаванага В.Р. Супруном, пра першапачатковае размяшчэнне горада ў трохкутніку, утвораным правым берагам ракі Шчары і ўпадзеннем у яе ракі Ісы – на тэрыторыі Замосця;

2) Г.І. Пеха, дапоўненага Я.Г. Звяругаю, пра заснаванне Слоніма на так званым Замчышчы, размешчаным паміж сучаснымі вуліцамі Опернай, Маякоўскага, Савецкай і Першамайскай (менавіта яна замацавалася ў гістарычнай навуцы і была абгрунтавана вынікамі археалагічных даследаванняў 1959 і 1968 гг.).



*Раскопкі 1959 года на слонімскім Замчышчы*

Першым, хто зацікавіўся пошукам месца ўзнікнення Слоніма быў І. Стаброўскі. На падставе шматгадовых росшукаў, ён прыйшоў да высновы, што горад паўстаў на правым беразе Шчары. У 30-я гады XX ст. гэтая тэорыя шырока замацавалася ў асяродку мясцовай інтэлігенцыі. Яна грунтавалася на наступных фактах: шматлікасць знаходак прадметаў сярэднявечнага вайсковага рыштунку, якія траляліся на агародах жыхароў Замосця[1]; наяўнасць старых габрэйскіх і хрысціянскіх могілак (пры колішняй Віленскай вуліцы, сённяшняй Баграціёна), апошнія з якіх былі выяўлены і знішчаны падчас правядзення чыгункі праз Слонім[2]; старэйшы ў горадзе драўляны каталіцкі касцёл Святога Андрэя, на месцы сённяшняга каменнага, пабудаваны на сродкі вялікага князя Казіміра Ягелончыка ў 1490 г.; заснаванне ў 1380 г. па дазволу Вітаўта першай габрэйскай калоніі; радыяльная планіроўка вуліц, што разыходзіліся ад плошчы Льва Сапегі [3].

У 1946 годзе на месцы ў даваенны час шчыльна забудаванага Замчышча пры аглядзе вырытай на яго тэрыторыі траншэі[4] Г.Пех знайшоў некалькі фрагментаў сярэднявечнай керамікі і кавалак шклянога бранзалета жоўтага колеру[5]. У 1953 годзе ён правёў шурфоўку, у выніку якой выявіў вялікую колькасць керамікі, тыповай для гарадоў Панямоння. У чэрвені-ліпені 1959 г. на Замчышчы пад кіраўніцтвам Г.Пеха і ўдзеле работнікаў Слонімскага краязнаўчага музея былі праведзены паўнавартасныя археалагічныя раскопкі, пасля якіх Я.Звяруга адзначыў, што “сумненняў у тым, дзе размяшчаўся летапісны Слонім быць не магло”[6].

У 1969 годзе працяг даследаванняў на Замчышчы ініцыяваў Інстытут гісторыі БССР. Кіраваў раскопкамі Я. Звяруга. Ён звярнуўся да плана горада 1825 года, на якім гарадзішча было абмежавана з поўдня і ўсхода стромкімі схіламі, а з поўначы і захада – ровам. Мост, які злучаў Замчышча з астатняй гарадской тэрыторыяй, размяшчаўся з паўночнага боку: “на жаль, у выніку шматлікіх перабудоў больш позняга часу ўмацаванні горада на паверхні не захаваліся”[7]. Была зроблена выснова, што паселішча на Замчышчы ўзнікла ў XI ст. і менавіта яно з’яўляецца пачаткам Слоніма. Пасад Звяруга лакалізаваў “паміж Замчышчам і выпрастаным рукавом р. Шчары”[8].

Зыходзячы з тэорыі І. Стаброўскага і ўлічваючы вынікі археалагічных даследаванняў, В. Супрун прапанаваў сваё бачанне праблемы: “горад адначасова развіваўся паабапал ракі. Правабярэжжа з невысокімі пясчанымі пагоркамі было заселена больш шчыльна і, магчыма, гэта з’явілася прычынай больш значнай умацаванасці правабярэжнага гарадзішча, якое і стала затым цэнтрам будучага горада”[9]. Пры абгрунтаванні сваёй думкі В. Супрун зыходзіў з самой этымалогіі назвы горада ад слова “услон”, “услона” як пэўнага засланяючага збудавання ці збудаванняў на гандлёвай магістралі, якой з’яўлялася рака Шчара. У якасці аргументаў, у дадатак да аргументаў І. Стаброўскага, В. Супрун прапанаваў наступныя: назва Замкавай плошчы (сённяшняй Льва Сапегі) і Замкавай вуліцы, якая ад яе адыходзіла на захад (у далейшым частка яе была названа Мастовай, сённяшнія вуліцы Янкі Купалы і Камсамольская); існаванне ў горадзе двух замкаў – Верхняга

(на месцы Замчышча), і Ніжняга (на месцы плошчы Льва Сапегі); план горада 1795 г., на якім добра прыкметныя абрысы колішняга ўзвышша на месцы плошчы Льва Сапегі і радыяльная планіроўка вуліц, характэрная для старажытных гарадскіх цэнтраў.

У 1980-х гадах у Слоніме праводзіліся разведкавыя раскопкі (кіраўнікі экспедыцый Н.Здановіч, А.Краўцэвіч – 1983 г., І.Ганецкая, Н.Здановіч – 1988 г.). На іх падставе А.Краўцэвіч заўважыў, што "ўсё ж на існуючы момант мы маем больш доказаў для высновы аб знаходжанні дзядзінца на левым беразе Шчары"[10]. Аргументацыі І. Стаброўскага і В. Супруна А. Краўцэвіч супрацьпаставіў наступнае: вынікі археалагічных раскопак, згодна якім акрамя наслаенняў XI-XIII стст. на Замчышчы, такія ж ёсць і на пасадах; правядзенне аналогіі з іншымі беларускімі гарадамі сведчаць, што замкі XIV-XVII стст. размяшчаліся на месцы дзядзінцаў; наяўнасць могільнікаў на правым беразе Шчары сведчыць не аб цэнтры горада, а, наадварот, паказвае на яго ўскраіну; першы касцёл у горадзе не абавязкова будаваўся ў цэнтры.

Нягледзячы на свае заўвагі, А.Краўцэвіч пакідаў магчымасць ранейшага засялення правабярэжжа Шчары і адзначаў, што "гэта павінны высветліць далейшыя раскопкі"[11].

На сённяшні момант найбольш навукова абгрунтаваным месцаразмяшчэннем гістарычнага цэнтра Слоніма з'яўляецца так званае Замчышча. Але нельга пакінуць па-за ўвагай тэорыю І. Стаброўскага, развітую В. Супруном.

Варта адзначыць шэраг момантаў, якія звяртаюць на сябе ўвагу:

1) Месцаразмяшчэнне лакалізаванага Звяругаю пасада "паміж Замчышчам і выпрастаным рукавом р. Шчары"[12] . Згодна Гольдбергу і старым планам Слоніма, дадзеная тэрыторыя пачала паступова забудоўвацца толькі з пракладаннем тут малога Агінскага канала ў 1770-я гады, а да таго напрацягу некалькіх стагоддзяў выкарыстоўвалася для выкідвання адыходаў гараджанамі[13].

2) Даступнасць Замчышча да ракі, якая наблізілася да яго ў выніку правядзення малога




*Рэканструкцыя Услоніма, згодна В. Супруну*

канала Агінскага. На плане 1832 г. рэчышча Шчары называецца "Старая рака" і працякае побач з Замосцем.

3) Патрэба ў большым аб'ёме даследаванняў Замосця, перш за ўсё побач з плошчаю Льва Сапегі. Закладзеныя тры шурфы і дзве траншэі каля касцёла Святога Андрэя выявілі культурны слой з "матэрыяламі XVI-XIX стст."[14]. Аднак яны не закранулі тэрыторыю меркаванага, згодна В. Супруну, месцаразмяшчэння гістарычнага цэнтра Слоніма, адзначанага на плане горада 1795 года ўзвышшам, частка абрысаў якога пазначана на плане горада часоў Літоўскай губерніі (1796-1801). Гэтае ўзвышша было спачатку часткова забудавана ткацкай фабрыкай Навасільцава ў 1820 годзе. Тэрыторыя побач з ім была забалочана пасля будаўніцтва млыноў Кушаля Куніцы паміж сажалкай (сённяшняе Лабазоўскае возера) і ракою, якія садзейнічалі забалочванню рэчышча Шчары ў бок Ісы[15]. У выніку будаўніцтва Баранавіцка-Беластоцкай лініі чыгункі праз Слонім у 1885-1886 гадах гэтае ўзвышша было зрэзана.

Такім чынам, прынятая ў навуцы лакалізацыя гістарычнага цэнтра Слоніма на месцы так званага Замчышча пакідае пытанні і патрабуе дадатковых, у першую чаргу, археалагічных даследаванняў на плошчы Льва Сапегі і Замчышчы, на якім пакуль так і не былі выяўлены абарончыя ўмацаванні ці іх рэшткі. Таму нельга з усёй упэўненасцю гаварыць пра немэтазгоднасць тэорыі І. Стаброўскага аб размяшчэнні гістарычнага цэнтра горада на правым беразе Шчары, або адрынуць сфармуляваны на гэтай падставе погляд В. Супруна пра аднachасовае развіццё Слоніма паабапал ракі. Тым больш, што згодна акадэміку Б.А. Рыбакову, прагістарычныя грады і прыселкі размяшчаліся звычайна не па аднаму, а па некалькі, групамі і гнёздамі[16].

**Васіль Герасімчык**

*1. Супрун В.Р. Дзеі над Шчарай: (З гісторыі зямлі Слонім.). Слонім: Слонім. друк., 2000. 168 с., с. 36.*
*2. Goldberg G. Zarys dziejów miasta Słonima. Słonim. 1934, s. 57.*
*3. Супрун В., с. 30.*
*4. Пех Г. Раскопки древнего Слонима // Древности Белоруссии. Мн., 1966, с. 276-279., с. 276.*
*5. Зверуго Я.Г. Археологические раскопки в Слониме // Беларускія старажытнасці. Мн., 1972, с. 248-289, с. 248.*
*6. Зверуго Я., с. 257.*
*7. Зверуго Я.Г. Верхнее Понеманье в XI – XIII вв. / Под ред. П.Ф. Лысенко. Мн., 1989. 208 с., с.73.*
*8. Тамсама.*
*9. Супрун В.Р. Позірк у мінулае // Золак над Шчарай; рэд. С.А. Прасняк. Слонім, 1994. С. 100-115, с. 100.*
*10. Краўцэвіч А.К. Гарады і замкі Беларускага Панямоння XIV-XVIII стст.: Планіроўка, культурны слой. Мн., 1991. 171 с., с. 98.*
*11. Тамсама, с. 99.*
*12. Зверуго Я.Г. Верхнее Понеманье в XI – XIII вв., с.73.*
*13. Goldberg G., s. 24.*
*14. Краўцэвіч А., с. 47.*
*15. Милаковский, Описание города Слонима, 1891, с.3.*
*16. Цыт. па: Кишик Ю.Н. Градостроительная культура Гродно. Мн., 2007. 303 с., 20 с.*

# Кіраўнік патрыятычнай “Чайкі”

Васіль Супрун жыў побач са мной на адной Брэсцкай вуліцы ў Слоніме. Таму я яго сустракаў амаль кожны дзень: то ідучы ў краму, то ён ехаў на дачу, то кудысьці спяшаўся на сустрэчу. Пры спатканнях Васіль Рыгоравіч стараўся гаварыць мала, ён больш любіў слухаць, а потым адным сказам ціха падводзіў вынікі ўсёй гутаркі. Ён да самай смерці быў асцярожным і маўклівым. Але я стараўся яго трохі разварушыць і гучна пытаўся: “Як справы, Васіль Рыгоравіч, чым займаецеся, над чым працуеце?”.

—Вось сонейка выглянула вясновае, дык на дачу еду, варушуся там крыху. Цяжка ўжо працуецца ў маім узросце, не хапае сіл і здароўя, каб працаваць, пісаць. Хоць жаданне зрабіць тое-сёе яшчэ ёсць, — заўсёды з лагоднай усмешкай, але ціха адказваў ён. Заўсёды інтэлігентны, шляхетны, быццам не з сялянскай сям’і выйшаў шукаць вольную ад паноў і таварышаў беларускую Беларусь. Ён моцна перажываў за Беларусь, казаў, што сёння ў нашай апазіцыі не хапае самаахвярнасці. А без гэтага — мы ніколі не пераможам.

Чаму ён так казаў, таму што сам са сваімі равеснікамі ў 1946 годзе стварыў патрыятычную антысталінскую арганізацыю “Чайка”, удзельнікі якой жылі ў Слоніме, Баранавічах, Навагрудку, Пінску і ў іншых гарадах, а таксама мястэчках. За гэта ён быў пакараны 25 гадамі зняволення.

Пра “Чайку” мы даведаліся толькі ў канцы 1980-х гадоў. Да гэтага часу ён нам ніколі нічога не казаў пра антысавецкае падполле. Калі выйшаў у 1956 годзе годзе на волю і праз год вярнуўся на родную Слонімшчыну, быў пазбаўлены магчымасці працаваць настаўнікам, хоць меў педагагічную адукацыю: скончыў Слонімскую настаўніцкую семінарыю і Ганцавіцкае педагагічнае вучылішча. Настаўнікам



*В.Супрун пасля вяртання з лагера*

працаваць не дазволілі, і Васіль Супрун мяняў заняткі і прафесіі. Працаваў спачатку будаўніком у роднай вёсцы, быў тэхнікам-будаўніком у СПТВ у Слоніме, а потым у пошуках заробку выехаў у Крым, дзе знайшоў працу праекціроўшчыка ў падводным марскім клубе ДТСАФ СССР. Працуючы далёка ад Беларусі, паступіў на гістарычны факультэт БДУ, які завочна скончыў у 1969 годзе.

Калі вярнуўся з Крыма на Радзіму, то зноў пайшоў працаваць на будоўлю. Адначасова займаўся ў вольны час археалагічнай разведкай і раскопкамі на Гродзеншчыне і Брэстчыне. Пасля пісаў пра гэта ў мясцовым друку, у часопісе “Помнікі гісторыі і культуры Беларусі”. Так і дажыў да пенсіі… Але гэта было пасля вяртання з ГУЛАГу, пасля 1957 года. А да гэтага была “Чайка”.

Напачатку 1946 года ў асяродку настаўніцтва і моладзі Слонімшчыны ўзнікла ідэя арганізаванага супраціву камуністычнаму руху і гвалтоўнай русіфікацыі Беларусі. З гэтай мэтай у пачатку траўня 1946 года ў Слоніме быў праведзены ўстаноўчы сход, на якім было прынятае рашэнне стварыць падпольную беларускую арганізацыю з канспірацыйнай назвай «Чайка», якая ставіла б сваёй мэтай змаганне за нацыянальныя правы і годнасць свайго народу, яго культуры, мовы, гісторыі і, урэшце, за свабоду і незалежнасць Беларусі. Арганізацыя не планавала займацца тэрорам, а індывідуальнай працай будзіць свядомасць беларусаў. Была прынятая праграма дзейнасці, асновы канспірацыі і абранае кіраўніцтва. У сходзе ўдзельнічалі Васіль Супрун (які быў абраны кіраўніком), Міхась Ракевіч, Міхась Чыгрын, Алесь Гардзейка, Леакадзія Кавальчук і Ніна Карач (сакратар). У сувязі з няяўкай Ніны Карач на пазнейшыя нарады і парушэннем канспірацыі, дзяўчаты былі адхіленыя ад удзелу ў падполлі, змененыя яўкі. Дарэчы, пазней Ніна Карач была асуджана на 10 гадоў. Яе зябяруць ужо студэнткай Інстытута народнай гаспадаркі. І што цікава, бацька Ніны быў некалі засланы з Расіі ў Польшчу для навядзення прапаганды на карысць Саветаў. А дачка, як бачыце, вырасла свядомай беларускай.

З агульнай згоды сяброў Васілю Супруну было загадана заснаваць патрыятычнае падполле ў Баранавіцкім настаўніцкім інстытуце, Міхасю Ракевічу — у Брэсцкім чыгуначным тэхнікуме, дзе ён навучаўся, Міхасю Чыгрыну — у Жыровіцкім сельскагаспадарчым тэхнікуме, дзе ён у той час вучыўся, і Алесю Гардзейку — сярод моладзі Слонімшчыны.

У хуткім часе патрыятычныя групы падполля былі створаныя і ў Баранавічах (з дапамогай Уладзіміра Салаўя — студэнта настаўніцкага інстытуту), у Брэсце, Жыровічах і ў іншых гарадах і мястэчках.

“Чайка” за нейкі месяц дзейнасьці выйшла далёка за межы Слонімшчыны, што патрабавала паглыбленай распрацоўкі праграмы і схемы ўнутранай будовы арганізацыі. А праз пэўны час уз-

нікла і неабходнасць стварэння так званага Цэнтра Беларускага Вызваленчага Руху (ЦБВР), які павінен быў ажыццяўляць агульнае кіраўніцтва рухам. Кіраўніком Цэнтра быў абраны Васіль Супрун, намеснікам па арганізацыйна-палітычнай рабоце стаў Аляксандар Барэйка, а адказным за ваенізаваны рух — Міхась Ракевіч. Акрамя таго, дарадчымі членамі Цэнтра былі прызначаныя Мікалай Макарэвіч, ён жа — кіраўнік Брэсцкага абласнога падполля, Міхась Агейка — ад баранавіцкай інстытуцкай групы і Уладзімір Салавей — ад слонімскіх груп. Кантакты Васіля Супруна з А. Барэйкам і М.Ракевічам былі рэгулярнымі, з астатнімі членамі Цэнтра — пры неабходнасці.

Цэнтрам была прапанаваная так названая «колавая» схема кіравання. Ад Цэнтра мела адходзіць (акружаць яго) першае кола, гэта значыць, абласныя кіраўнічыя структуры, вакол якіх павінны размяркоўвацца раённыя групы — другога кола, а вакол апошніх — перыферыйныя групы — трэцяе кола. Пры гэтым прапаноўвалася своеасаблівая схема канспірацыі і кансервацыі падполля. На пэўным этапе, калі нейкая тэрыторыя будзе арганізацыяй ахоплена, яна павінна быць закансерваваная да спрыяльнай палітычнай сітуацыі, пры якой па камандзе з Цэнтра павінна была быць гатовая да любых дзеянняў…

Але за беларускімі хлопцамі і дзяўчатамі пільна сачыла спецгрупа МДБ. І ў чэрвені 1947 года беларускіх патрыётаў пачалі арыштоўваць. Быў арыштаваны і Васіль Супрун. Амаль паўгода знаходзіўся ў баранавіцкай следчай турме «Крывое кола» і мінскай «амерыканцы». 21 лістапада 1947 Ваенны трыбунал войскаў МУС Беларускай акругі ў Мінску паводле артыкулаў 63-1 і 76 КК БССР (здрада радзіме і антысавецкая агітацыя) асудзіў Супруна на 25 гадоў пазбаўлення волі і 5 гадоў паражэння ў правах з канфіскацыяй маёмасці. Такім суровым быў прыгавор перш за ўсё за ўпартасць, нязломнасць, адмову нагаворваць на сябе і іншых, карацей — за характар, за тыя яго рысы, якіх берыеўцы не чакалі ад вясковага настаўніка, маладога народнаа інтэлігента, маладога беларуса.



В. Супрун у гасцях у Ларысы Геніюш у Зэльве

Пакаранне Васіль Супрун адбываў у лагерах Інты і Варкуты. У зняволенні падтрымліваў тайную міжлагерную перапіску з беларускай паэткай Ларысай Геніюш:

*Бачыш? Вялізныя шрамы па краю —*
*Лагеры, зоны, драты.*
*Там ні за што, як і мы, дагараюць*
*Нашы ў няволі браты.*

Вершы з перапіскі Васіля Супруна і Ларысы Геніюш упершыню былі апублікаваныя ў тыднёвіку “Літаратура і мастацтва” вясной 1989 года. Іх публікацыя была тады вялікай падзеяй ў беларускім літаратурным жыцці. Аказалася, што Васіль Супрун усё жыццё пісаў вершы, найбольш патрыятычныя. А першы ягоны верш быў надрукаваны ў “Баранавіцкай газеце” яшчэ ў 1943 годзе. І толькі праз 50 гадоў дзяржаўнае выдавецтва “Мастацкая літаратура” выдала невялікі зборнічак вершаў Васіля Супруна пад назвай “Крык” з прадмовай прафесара Алега Лойкі. Вершы ў ім былі напоўненыя духоўнай сілай і верай, нязломнасцю духа ды бясконцай любоўю да роднага краю:

*Так, каб жыць, каб тварыць, каб змагацца, любіць,*
*Трэба ўмець супроць хваляў і гора*
*Непакорна плысці, сваё Заўтра знайсці —*
*Яно лепей, чым нашае ўчора.*

Потым свет пабачылі яшчэ некалькі кніг вершаў і краязнаўчых артыкулаў Васіля Супруна. Яго прынялі ў Саюз беларускіх пісьменнікаў.

Васіль Супрун быў вельмі таленавітым чалавекам. Ён умеў добра фатаграфаваць, маляваць, выдатна іграў на скрыпцы, любіў прыроду. Некалькі разоў ён звяртаўся ў вышэйшыя мінскія інстанцыі, каб яго рэабілітавалі, але так і не дачакаўся рэабілітацыі. Але для тых, хто ведаў Васіля Рыгоравіча, ён застаўся маральным аўтарытэтам назаўсёды.

**Сяргей Чыгрын**



# З успамінаў пра даследаванні Жыровіцкай святыні

*Працяг, пачатак у № 2*

З гістарычных вестак мне было вядома, што пры святыні існавала немалая бібліятэка і архіў, вёўся нават нейкі летапіс і навуковая праца. Святыня ў мінулым з'яўлялася значным асяродкам культуры і асветы. Нейкі час тут працавала і друкарня. Можна было спадзявацца, што нешта ўсё ж захавалася, хоць у копіях. Аднак з далучэннем краю да Расійскай імперыі і асабліва пры скасаванні уніяцтва ў 1839 годзе многае было скрадзена, астатняе на загад мітрапаліта Іосіфа Сямашкі варварскі спалена на пляцы перад Успенскім саборам, як у часы страшных інквізіцый. Спалены сотні бібліятэчных тамоў, архіў, старыя абразы, мастацкая разьба, скульптура, мэбля і іншая храмавая маёмасць.

На маё пытанне "Ці засталіся якія-небудзь архівы?" архімандрыт развёў рукамі. Ён не ведаў. Ды што магло застацца, акрамя сценаў?! Адсюль усё забіралася і вывозілася без дазволу, як з калоніі.

Па ўсім было відаць, што пасля дазволу ўладыкі адносіны айца Канстанціна да мяне змяніліся. Я змог хоць павярхоўна азнаёміцца з тэрыторыяй манастыра, моцна "абшчыпанай" суседнім тэхнікумам і раённай медыцынай. Былыя карпусы духоўнай семінарыі і ўпраўлення епіскапа (у XIX стагоддзі) цяпер належалі сельскагаспадарчаму тэхнікуму, а значная частка жылога манастырскага корпусу адышла пад аддзяленне раённай бальніцы.

Зразу прыцягнула ўвагу беднасць святыні, але не запушчанасць. Выкарыстоўваўся кожны кавалачак зямлі, кожнае сутарэнне. Прышлося абмяжоўвацца вонкавым выглядам збудаванняў, сёе-тое фатаграфаваць і занатоўваць. Для даследавання гэтага недастаткова, але ўсё было замкнёна і патрабаваць нейкай увагі да сябе я лічыў нясціплым.

Зразу звярнуў увагу на неадпаведнасць датаў на ахоўных шыльдах Крыжаўздзвіжанскай і Яўленскай цэркваў. Яны былі аднолькавыя. Храмы датаваліся адным 1769 годам, хаця Яўленская (Богаяўленская) царква будавалася амаль на сто гадоў раней — у 1672 годзе. Удалося заўважыць вялікі ўступ муроўкі апсіды Успенскага сабора, што нагадвала аб змяншэнні памераў храма ў час будаўніцтва. Была звернута ўвага і на вялікую агульную магілу за Крыжаўздзвіжанскай царквой, дзе ў мінулым былі перазахаваны астанкі вяльможаў і былых храмавых ахвярадаўцаў, пахаваных у склепах і саркафагах, змешчаных у вялікіх сутарэннях пад Свята-Успенскім саборам.



*Жыровічы. Малюнак Напалеона Орды (1865 год)*

З усіх прачытаных мною публікацый і старых выданняў, якія давялося заказваць праз МБА (міжбібліятэчны абанемент — СК) не толькі з Мінска, але і з Масквы, я не змог атрымаць адказу на шматлікія гістарычныя факты і перыяды. Што нагадвала аб нейкіх пропусках, правалах. Нібы з рэальнай гісторыі святыні вырваны старонкі. Тлумачыць гэта можна было толькі тым, што аб'ект пераходзіў з адной канфесіі (праваслаўя) да другой (уніяцтва) і зноў вяртаўся ў праваслаўе. Пры гэтым сапраўдная гісторыя магла перапісвацца і нават часткова фальсіфікавацца. А дакументы, магчыма, знішчаліся або перарабляліся, дапасоўваліся да новай канфесійнай ідэалогіі, што асабліва кідалася ў вочы ў сувязі з ліквідацыяй уніяцтва ў 1839 годзе. Некаторыя выданні змаглі ўбачыць свет, як царкоўна-містычныя і хвалебныя. Мяне ж цікавіла ў першую чаргу рэальная гісторыя.

Праўда, і частыя ваенныя ліхалецці не спрыялі захаванню архіваў. Ад іх цярпелі нават збудаванні, што можна назіраць цяпер і на дэталях галоўнага храма святыні — Свята-Успенскага сабора. Пры кожным аднаўленні аб'екта часткова змяняўся яго ранейшы выгляд. Ды і са зменай эпох і канфесій змяняліся архітэктурныя стылі, архітэктурныя афармленні аб'ектаў. Крыху згадваецца ў літаратуры

толькі аб апошняй рэканструкцыі храмавых аб'ектаў у XIX стагоддзі, калі збудаванні набылі ўжо сучасны выгляд.

Святыня ж, як і наваколле, як і народ беларускі, за 500 гадоў свайго існавання зведала нямала падзей. Муры гэтыя былі сведкамі гісторыі краю, і таму даследаванне іх выклікае цікавасць у кожнага краязнаўца. Ды, на жаль, гэты цікавейшы комплекс вывучаны яшчэ вельмі павярхоўна. А гэта ж наша духоўнае багацце. Магчыма, таму, каб пазбавіць нас гэтага багацця, гэтай духоўнай апоры, нашы ворагі наўмысна пазбаўляюць нас памяці, вывозячы за межы краю гістарычныя сведчанні з нашай мінуўшчыны. Беларусь, як каланіяльны прыдатак імперыі, не мела права захоўваць на сваёй тэрыторыі нацыянальныя каштоўнасці свайго народу. Яны асядалі ў Маскве, Пецярбургу (Ленінградзе). Некаторыя экспанаты больш далёкай мінуўшчыны трапілі ў архіўныя сховы Вільні і Кракава, нават Львова.



*Свята-Успенскі сабор у Жыровічах. Фота В. Супруна пачатку 1960-х гадах*

Старыя полацкія і навагрудскія архівы даўно зніклі, ды іх ніхто і не шукаў. Гаспадарамі іх сталі чужыя ўладары, альбо знішчэнне.

*(Заканчэнне ў наступным нумары)*

**Васіль Супрун**

Кнігі пра Слонім

# З мінуўшчыны Слоніма і Слонімскай зямлі

*Aleksandrowicz, B. Z przeszłości Słonima i ziemi Słonimskiej. Słonim: Słonim i ziemia Słonimska, 1935. 38 s.*



BRONISŁAW ALEKSANDROWICZ

Z PRZESZŁOŚCI SŁONIMA I ZIEMI SŁONIMSKIEJ

SŁONIM 1935

У 1935 годзе ў слонімскай хрысціянскай друкарні пабачыла свет кніга Браніслава Александровіча “Z przeszłości Słonima i ziemi Słonimskiej” выдавецтва “Słonim i ziemia Słonimska”, якое ставіла на мэце адлюстраванне навуковай інфармацыі пра павет, пазбаўленай ад традыцыйных стэрэатыпаў.

Кніга Б. Александровіча з'яўляецца своеасаблівай кульмінацыяй развіцця навукова-даследчыцкай дзейнасці мясцовых краязнаўцаў. Яна змяшчае два раздзелы (“Палітычны нарыс”, “Унутранае ўладкаванне горада і гарадское жыццё”) і дапаўненні з характарыстыкай выкарыстаных аўтарам крыніц і літаратуры. У ёй знаходзіцца вялікая колькасць цытат з прывілеяў каралёў і заканадаўчых актаў, якія былі напісаны ў Слонімскім павеце.

Александровіч пачынае адлік гісторыі Слонімскага павета з 4 тыс. да н.э., з моманту з'яўлення першых сталых пасяленцаў, на землі якіх на пачатку 1 тыс н.э. прыходзяць славянскія плямёны дрыгавічоў, і завяршае падзеямі трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 годзе.

Хаця землі павета афіцыйна разглядаліся як тэрыторыя рассялення польскага народа, краязнавец зазначае, што да канца X ст. ніякіх адносін паміж польскімі плямёнамі і дрыгавічамі не было, а “Слонім належыць да старажытных рускіх паселішчаў”. Горад з'яўляўся адным з важнейшых гарадоў Чорнай Русі. Аўтар аддаваў перавагу версіі з'яўлення Слоніма ў часы тураўскага князя Святаполка (1013 г.), прапанаванай Мілакоўскім, у той жа момант, нягледзячы на кантакты Святаполка з польскім каралём Баляславам, адносін з Польшчаю жыхары горада не мелі. Слонім стаў адным з першых уладанняў літоўскіх князёў, а ў часы Альгерда існавала Слонімскае ўдзельнае княства.

У кнізе знаходзіцца шмат паданняў. Напрыклад, пра знаходжанне у 1409 г. у горадзе князя Вітаўта, які, даведаўшыся пра напад крыжакоў на Ваўкавыск, накіраваўся разам са сваёю жонкаю ў лясную пушчу пад Здзітавам, дзе хаваўся да адыходу ворагаў.

“Да XVI ст. Слонім быў толькі завязкаю горада”, які стаў адным з цэнтраў ВКЛ пад уплывам Льва Сапегі. У ім з канца XVI ст. збіраліся генеральныя сеймікі. Аднак росквіт спыніўся ў выніку вынішчэння падчас вайны з маскоўцамі. І толькі ў другой палове XVIII ст. горад здолеў аднавіць сваё значэнне, дзякуючы руплівай дзейнасці гетмана М.К. Агінскага.

Кніга Александровіча стала узорам даследчыцкай дзейнасці краязнаўчага руху ў Слонімскім павеце і заявіла пра багатую і самастойную гісторыю рэгіёна. У той жа момант у ёй адкрыта прысутнічае імкненне ўпісаць мясцовы рэгіён у польскі гістарычны дыскурс.

**В.Г.**

# Даследаванне, перапоўненае ідэалагічнымі штампамі

*Мелешко В. Слоним (исторический очерк). Минск: Госиздат БССР, 1962, 78 с.*

Кніга Васіля Мялешкі (1921 — 2004) выклікае супярэчлівыя пачуцці. З аднаго боку, яе аўтар — прафесійны гісторык, выкарыстаў даступныя публікацыі папярэднікаў, архіўныя крыніцы, з іншага боку — некаторыя пытанні вывучыў павярхоўна (напрыклад, праблему часу заснавання Слоніма), у некаторых выпадках сказіў рэчаіснасць.* Трэба ўлічваць час напісання кнігі, жорсткія ідэалагічныя ўстаноўкі, якіх прытрымліваліся навукоўцы. Тэкст перапоўнены камуністычнымі штампамі, такімі, як "капіталістычныя эксплуататары". Ну і на галоўным месцы для Мялешкі стаяла не даследаванне жыцця горада і яго жыхароў, а барацьба працоўных за сваё вызваленне, сацыяльнае, нацыянальнае.

Тым не менш, аўтар тэзісна асвятляе гісторыю Слоніма і Слонімшчыны на працягу стагоддзяў, падмацоўвае яе шматлікімі лічбамі, фактамі, цытуе дакументы. Пры гэтым ён зусім праігнараваў дзейнасць "эксплуататараў" Льва Сапегі і Міхала Казіміра Агінскага! Паводле В. Мялешкі, беларускі народ заўсёды імкнуўся "жыць разам з братнім рускім народам". Ён пазітыўна ацэньвае далучэнне Беларусі да Расійскай імперыі ў канцы XVIII ст., адзначае, што гэта спыніла паланізацыю. Але, каб і хацеў, не змог бы напісаць, што ёй на змену прыйшла русіфікацыя.

Паўтарае Мялешка міф савецкай гістарыяграфіі, пра літоўскіх феадалаў, якія, нібыта, захапілі беларускія землі, у тым ліку і Слонімшчыну, ды ўключылі іх у склад Вялікага княства Літоўскага. Насамрэч, ніякага захопу не было, ВКЛ стварылі беларусы (ліцьвіны), Літвой называлася частка беларускіх земляў, на нашай мове пісаліся Статуты, іншыя дзяржаўныя дакументы.

Гісторык прапанаваў сваю версію паходжання назвы нашага горада: па-літоўску "нізіна" — гэта "сленіс", "сленумас". Можна дапусціць, што балцкі тапонім сапраўды мог захавацца і ў скажоным выглядзе выкарыстоўвацца славянскім насельніцтвам. Аднак, на наш погляд, таямніцу назвы нашага горада нам наўрад ці ўдасца разгадаць (навукова абгрунтаваць праўдзівасць адной з версій).

Даволі падрабязна аўтар асвятляе нацыянальна-вызваленчую барацьбу жыхароў Слонімшчыны ва ўмовах польскай акупацыі 1921-1939 гг. (ён і сам у ёй удзельнічаў). Васіль Мялешка піша пра страйкі, мітынгі, пра выпуск лістовак, падпольнай газеты, вывешванне лозунгаў, пра дзейнасць падпольнай Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. І толькі крыху згадвае пра тагачаснае жыццё горада і раёна. Шкада, бо яно было багатае на цікавыя падзеі, не абавязкова звязаныя з палітыкай.

Раздзелы кнігі, прысвечаныя пасляваеннаму часу, чытаюцца цяжка. Разам з каштоўнай інфармацыяй, там прысутнічае шмат ідэалагічных штампаў. "Гістарычныя рашэнні XXII з'езда КПСС натхняюць працоўных




Слонімшчыны на новыя працоўныя подзвігі", — пафасна піша Васіль Мялешка. Нягледзячы на ўсе недахопы, яго кніга — важная цаглінка ў даследаванні гісторыі Слонімшчыны. Яе наклад складаў 3500 асобнікаў. Здаецца, лічба значная, але за паўстагоддзя іх захавалася зусім мала і кніга стала бібліяграфічнай рэдкасцю.

**Сяргей Ёрш**

**Памылка з датай пачатку польскай акупацыі Слоніма ў 1920 г. Гл.: Ёрш С. Калі Слонім акупавалі польскія войскі ў 1920 годзе? // Слонімскі край, 2016, № 2, с. 9. Таксама ён піша, што ў 1614-1615 гг. горад ад казацкіх атрадаў абаранілі "польска-шляхецкія войскі", хаця насамрэч — мяшчане, мясцовыя жыхары.*

# Планы Слоніма ў фондах ГДГАМ



*План Слоніма 1832 года*

У Гродзенскім дзяржаўным гісторыка-археалагічным музеі захоўваюцца чатыры планы горада Слоніма, якія адносяцца да першай паловы XIX ст. На іх падставе можна аднавіць забудову горада і лакалізаваць шэраг аб'ектаў, якія да сённяшняга часу не захаваліся.

1. «Планъ Уездного Города Слонима Литовско-Гроднеской Губерніи», складзены ў 1828 годзе уездным землямерам Васілеўскім. Памеры: 70,5 х 96,4 см.

На ім маюцца абрысы Слоніма з навакольнымі тэрыторыямі. У левым баку змешчаны спіс грамадскіх і прыватных будынкаў, пазначаных рознымі колерамі. Ніжэй пералічваюцца вуліцы самога горада. На паперы маецца вадзяны знак «Вулей» і надпіс «J.Honig & Zoonen». Захаваўся таксама прамавугольны штамп «Muzeum w Grodnie», стары інвентарны нумар 1876 і надпіс: «II-35». Арыентаванне: паўночнае. Маштаб: у англійскай цалі 50 сажаняў [1 : 4 200].

2. «Геометрическій планъ Слонимскаго уезда, земель и угодій, принадлежащихъ Езерницкой Православной церкви. Межеванья, учиненнаго въ 1846 году въ Августе месяце Слонимскимъ уезднымъ Землемеромъ Михайловымъ, а во владеніи той церкви находится: подъ усадьбою, церковью и огородомъ 1 десят: 117 кв: сажен; пашенной земли 151 десят: 114 кв: сажен; сеннаго покоса 25 десят: 940 кв: сажен; лесу мешаго[!] дровянаго 8 десят: 1879 кв: сажен: А всего вообще удобной и неудобной земли: 186 десятинъ, 650 квадрат: саженъ». Такі доўгі подпіс да плана зроблены яго складальнікам слонімскім уезным землямерам Міхайлавым у 1847 годзе. Памеры: 102,5 х 73 см.

У правым ніжнім вуглу асобна вынесены план земляў розных уладальнікаў побач з ракою Зэльвай. У левай цэнтральнай частцы падаецца легенда: тлумачэнне знакаў. Захаваўся прамавугольны штамп «Muzeum w Grodnie», стары інвентарны нумар 1932 і надпіс: «2-3». Арыентаванне: паўночнае. Маштаб: у цалі 100 сажаняў [1 : 8 400].

3. «Планъ Уездного города Слонима Гродненской губерніи». Складзены ў 1832 годзе. Памеры: 71,5 х 109,5 см.

План горада Слоніма і сумежных з ім земляў. На плане пазначаны будынкі горада. Захаваўся прамавугольны штамп «Muzeum w Grodnie», стары інвентарны нумар 1871 і надпіс: «II-33». Арыентаванне: паўночнае. Маштаб: у цалі 50 сажаняў [1 : 4 200].

4. План Слоніма і ваколічных земляў, на якім дакладна пазначаны будынкі горада. Прозвішча аўтара дакладна такое, як і ў стваральніка плана 1828 года – Васілеўскі. Наконт выканаўцаў працаў маецца адпаведны запіс: «Сочинялъ Слонимскій Уездный Землемеръ Коллежскій Секретарь Василевскій. Измерялъ Замость и Выгонную Землю, Лидскій Уездный Землемеръ, Титулярный Советникъ Степанъ Подолинскій».

Па-за межамі горада падпісаны: «Городская земля, почтовая дорога изъ Города Бржестья, земля Слонимской Экономии, Копаница, земля Плебаний Слонимской, земля Каноников Регулярных, земля помещика Пусловскаго, Владиемая земля жителями Города Слонима, место где была церковь Святого Николая, земля монастыря монахинь Бенедиктинок», а таксама водныя артэрыі горада: «река Щара, Старая река, Холодная вода, Красная речка, ставище».

Захаваўся прамавугольны штамп «Muzeum w Grodnie», стары інвентарны нумар 1871 і надпіс: «II-33». Арыентаванне: паўночнае. Маштаб: у цалі 50 сажаняў [1 : 4 200].

**Васіль Герасімчык**

# *Слонімскае этнаграфічна-археалагічнае таварыства (1924-1928)*

6 студзеня 1924 года ў Слоніме па вуліцы Студэнцкай № 6 адбыўся ўстаноўчы сход этнаграфічна-археалагічнага таварыства (далей – СЭАТ).

Дадзеная падзея была падрыхтавана руплівай дзейнасцю Стаброўскага Іосіфа Іосіфавіча (1870-1968). Дваранін па паходжанні, палкоўнік царскай арміі, больш трыццаці гадоў на ваеннай службе, удзельнік Першай сусветнай і грамадзянскай войнаў, пасля савецка-польскай вайны ў 1921 годзе вярнуўся ў сямейны маёнтак Орлавічы на Слонімшчыне і цалкам прысвяціў вольны час любімай справе – даследаванню гісторыі роднага края. І.І. Стаброўскі асабліва цікавіўся нумізматыкай, мінералогіяй і меў археалагічную падрыхтоўку - у 1917 годзе скончыў Маскоўскі археалагічны інстытут[1], а ў 1920-1921 з'яўляўся слухачом Вышэйшых Археалагічных курсаў Таварыства археалогіі, гісторыі і этнаграфіі пры Самарскім дзяржаўным універсітэце[2]. На Радзіме Стаброўскі заняўся даследаваннем гісторыі родных яму мясцін, чым здолеў зацікавіць прадстаўнікоў слонімскай інтэлігенцыі і нават свае ідэі прывіў афіцэрам размешчанага ў горадзе 79-га польскага пяхотнага палка, якія перадавалі даследчыку знойдзеныя імі прадметы гістарычнага характара[3].

Праз тры гады пасля вяртання на радзіму, Стаброўскі пры дапамозе невялікага гуртка, які складаўся з моладзі, арганізаваў СЭАТ. Дзякуючы палажэнню ў грамадстве і апантанасці справай, яны заручыліся падтрымкай мясцовых улад. 5 кастрычніка 1923 года было атрымана пісьмо слонімскага старасты за № 5314 "у справе арганізацыі Таварыства", дзе ішла гаворка аб тым, што аб'яднанне абавязваецца дакладваць у староства аб прынятых на ім рашэннях[4]. За месяц да адкрыцця таварыства, прадстаўнікі слонімскай інтэлігенцыі атрымалі запрашэнні на ўстаноўчае паседжанне.



Szanowny Panie

Uprzejmie proszę o przybycie na Organizacyjne Zebranie członków Towarzystwa etnograficzno-archeologicznego, które odbędzie się w dniu 6 Stycz. 1924 r. o godz. w lokalu Słonimskiego Towarzystwa Rolniczego (Studencka № 9)

Porządek dzienny:

1. Wybor przewodniczącego.
2. Odczytanie pisma Starostwa Słonimskiego w sprawie organizacji T-wa. oraz przepisów obowiązujących ustawodawstwa o stowarzyszeniach. Odczytanie projektu ustawy.
3. Wybór Zarządu.
4. Wolne wnioski

Z poważaniem Józef Stabrowski

*Запрашэнне на адкрыццё СЭАТ*

Заснавальнікамі СЭАТ былі: Карказовіч (стараста Слонімскага павета), Бараноўскі, Вацлаў Броніч, Сновік Галінайціс, Вацлаў Керубовіч, Канстанцыя Ельская, Алена Курсноўская, Мечыслаў Куткоўскі, Эдмунд Мікульскі, Вацлаў Пратасовіч, Пётр Пратасовіч, Стэфанія Пальхоўская, Ян Стравінскі, Іосіф Стаброўскі, Ігнаць Валадковіч.Такім чынам, на пачатку сваёй дзейнасці СЭАТ налічвала 15 чалавек. Не ўсе з іх удзельнічалі ў навуковай працы Таварыства, але мецэнацкія функцыі многіх з заснавальнікаў (напрыклад, старасты Карказовіча) толькі садзейнічалі навуковым даследаванням. Сярод "заступнікаў" таварыства ў пратаколе паседжання згадваюцца Уладзіслаў Еман, Нарыміч Міхальскі, Канстанцыя Ельская.

На першым арганізацыйным паседжанні (6 студзеня 1924г.) было прынята рашэнне аб выбары кіраўніка, скарбніка і сакратара праўлення СЭАТ. Кіраўніком абраны І.І. Стаброўскі, скарбнікам стаў Ігнаць Каркозаў, чалавек, які не згадваецца сярод ганаровых заснавальнікаў. На гэтым жа паседжанні быў прыняты праект устава, падпісаны ў трох экзэмплярах і пазней прадстаўлены слонімскаму староству для "легалізацыі".

Так 6.01.1924 г. ў Слоніме пачало сваю працу этнаграфічна-археалагічнае таварыства. Наконт рэгулярнасці яго паседжанняў не маецца дакладных звестак, але яно сапраўды працавала, пацверджаннем чаму з'яўляюцца асабістыя запісы Стаброўскага аб адным з іх: "Праграма этнаграфічнага з'яднання беларускай люднасці ў Слонімскім павеце і суседніх паветах" і план магчымага выступлення Стаброўскага. План па пунктам апісвае асноўныя накірункі жыцця і дзейнасці беларуса, закранае не толькі асаблівасці знешняга выгляду ці хатняга жыцця (радкі пад назвай "уборы", "сядзіба", "кухонны посуд", "сталовы посуд", "пасцель", "сталы і крэслы", "млыны і ступы", "прадукты"), але павярхоўна адлюстроўвае і духоўнае жыццё нашага народа ("помнікі паганства", "варажба", "прароцтвы", "сакрэты чараўнікоў", "звычаі: спосаб вітання, прыняцце госця", "Велькі пост", "Вялікдзень"). Стаброўскі выдзяляе асабліва значныя "абрады": "Нарадзіны і хрысціны", "Залёты і заручыны", "Вяселле", "Пахаванне". У плане змешчаны пункты, якія закранаюць гаспадарчае жыццё беларускай вёскі: "Паляванне", "Рыбалоўства", "Гандаль", "Гаспадарства","Пакорм", "Патравы". Асабняком ад вышэй акрэсленых галін жыцця простага беларуса ў плане размешчана "Медыцына проста-

га люду". У гэтым раздзеле І.І. Стаброўскі вылучае лекі "для люду" і "для жывёлы". Гэты дакумент сведчыць аб шырокай, змястоўнай інфармаванасці Стаброўскага аб жыцці роднага народа і навуковых даследаваннях у вобласці этнаграфічнай спадчыны беларусаў.

Для разумення накіраванасці працы этнографа-археалагічнага Таварыства трэба засяродзіць увагу на праграме паседжання, для якога Стаброўскі склаў свой план: 1. Статыстычныя дадзеныя аб колькасці беларусінаў і пасяленняў; 2. Геаграфічны і кліматычны агляд краю; 3. Тыпы фізічнай уласнасці; 4. Харчаванне; 5. Адзенне; 7. Жыллё; 8. Камунікацыі; 10. Шлюб, гадаванне дзяцей; 11. Маральнасць; 12. Грамадскія сабранні;13. Эканамічны і сацыяльны строй;14. Рэлігійныя абрады, забабоны; 15. Святы, забавы, пахаванне; 16. Паданні, песні; 17. Хваробы і іх лячэнне і знахарства; 18. Беларусінская мова.

Пасля заснавання СЭАТ І.І. Стаброўскі распачаў археалагічнае вывучэнне тэрыторыі вакол уласнага маёнтка "Орлавічы". Тут ён сутыкнуўся з праблемай разбурэння курганнага могільніка на вясковых могілках. Таму 27 красавіка 1927 года Стаброўскі накіраваў у Навагрудскае ваяводскае кансерватарскае ўпраўленне пісьмо з прапановай прыняць пад ахову тэрыторыю курганнага могільніка ў Орлавічах і пераноса сучасных могілак на вылучаны Стаброўскім участак. Да пісьма быў прыкладзены сітуацыйны план (накід) у маштабе 1:8400. На заклік Стаброўскага адгукнуўся кіраўнік Польскага Цэнтральнага археалагічнага музея ў Варшаве Раман Якімовіч. У Орлавічах было выяўлена каля 50 курганаў, размешчаных на паверхні каля аднаго гектара. Тры з іх 27-28 мая 1927 года былі даследаваны[5]. Пры актыўным удзеле І.І. Стаброўскага, дзякуючы выдзеленаму ім пад новыя могілкі кавалку зямлі, у Орлавічах у 1930 годзе з'явіўся археалагічны парк.

Акрамя курганаў каля Орлавіч, знаходзячыся на пасадзе кіраўніка СЭАТ, Стаброўскі выявіў два курганы на могільніку вёскі Рахавічы. У адным кіламетры на поўдзень ад вёскі Багданавічы, ва ўрочышчы Самілава, каля могільніка, пры капанні пяску Стаброўскі знойшоў спаленне дыяметрам 2,5 м і глыбінёю 1,5 м. На адлегласці ў 0,5 км ад Багданавіч, ва ўрочышчы "Жукаўшчызна", летам 1927 года пад час узворвання быў знойдзены жэрнавы камень з грубазярністага граніту[6]. Актыўную дапамогу ў арганізацыі археалагічных даследаванняў Стаброўскаму аказвалі сябры СЭАТ.



СЭАТ пад кіраўніцтвам І.І. Стаброўскага вяло даследаванні гісторыі роднага края, займалася зборам прадметаў гістарычнага характару, арганізавала ў 1924 годзе выставу сабраных старадрукаў, сярод якіх выдзяляўся Статут Вялікага княства Літоўскага, выдадзены ў сярэдзіне XVII ст. на польскай мове, збірала сходы, на якіх прадстаўляліся даследаванні па культуры беларускага народа. Нажаль, па даследаваных дакументах нельга адказаць на пытанне, калі дакладна таварыства спыніла сваю дзейнасць. Хутчэй за ўсё, гэта адбылося ў 1928 годзе, калі ў Слоніме з'явілася аддзяленне Польскага краязнаўчага таварыства, да якога далучыліся прадстаўнікі СЭАТ, у тым ліку і І.І. Стаброўскі. Дзейнасць СЭАТ садзейнічала пашырэнню краязнаўчага руху, папулярызацыі вывучэння спадчыны роднага края і падрыхтавала ўмовы для з'яўлення на Слонімшчыне рэгіянальнага музея. Менавіта за час існавання Таварыства І.І. Стаброўскі сабраў вялікую колькасць гістарычных каштоўнасцей, стварыў свае археалагічную і нумізматычную калекцыі. У гэтай працы Стаброўскаму дапамагалі сябры СЭАТ.

**Васіль Герасімчык**


1. *Дыплом аб сканчэнні Стаброўскім І. І. Маскоўскага археалагічнага інстытута // Слонімскі краязнаўчы музей. – Вопіс калекцыі дакументаў Стаброўскага. - КП 7236 / Д 801.*
2. *Копия удостоверения № 19 Высших Археологических Курсов Самарского университета на имя Стабровского И. И. // Слонімскі краязнаўчы музей. – Вопіс калекцыі дакументаў Стаброўскага. - КП 8313/Д 2041.*
3. *Инвентарная книга учета экспонатов и материалов Слонимского областного краеведческого музея за 1940-1941 гг. // Государственный архив Гродненской области. – Фонд 2744. – Оп. 1 – Д. 6. – 1-46 л. арк 22.*
4. *Переписка, протоколы собраний, отчёты о работе Слонимского краеведческого общества и его организаций. Обращение в связи с открытием музея 20.09.29 г. и приездом в г.Слоним президента Польши // Государственный архив Гродненской области. – Фонд 551. – Оп.1 – Д.42. – 1-41 л. арк. 2.*
5. *Zabytki z okresu wplywow rzymskich, Średniowiecza i czasow nowozytnych z Bialorusi w zbiorach Państwowego Muzeum Archeologicznego w Warszawie / pod redakcją Andrzeja Piotrowskiego. -Warszawa 2005, - 154 s.*
6. *Stabrowski Jozef, Notatki archeologiczne z powiatu Slonimskego / Stabrowski Jozef // Wedomosci archeologiczne, t. XIII. – Warszawa, 1935. – S. 175 – 177.*

*Рэдкія выданні*

# У Жыровічах і Слоніме выходзілі падручнікі па батаніцы

У міжваенны час у Жыровічах дзейнічала дзяржаўная сярэдняя сельскагаспадарча-лясная школа. У паўночна-ўсходніх ваяводствах тагачаснай Польшчы гэта была адзіная навучальная ўстанова такога профілю[1]. У 1930 годзе яе скончыў Генрык Эдэр (1896 — 1974), які застаўся і працаваў настаўнікам да пачатку Другой сусветнай вайны. У 1934 годзе ён выдаў у Жыровічах падручнік: Eder H. Botanika Leśna. Żyrowice, 1934. Ён быў надрукаваны малым накладам: тэкст набіраўся на пішучай машынцы, машынапіс памнажаўся на капіравальным апараце, верагодна, на шапірографе. Выкарыстоўвалася папера кепскай якасці. Таму выглядала кніга не вельмі прэзентабельна, але ёй на працягу, як мінімум, двух гадоў карысталіся вучні. Цяпер жыровіцкая батаніка Эдэра — вялізная рэдкасць[2].

У 1936 годзе ў Слоніме ў Хрысціянскай друкарні Эдэр за свой кошт зноў выдаў “Батаніку”: Eder H. Botanika Leśna. Słonim, 1936. Выданне было сціплым — аўтар у мэтах эканоміі грошай не падаваў ілюстрацыі. Калі ў папярэднім выданні была 161 старонка, дык у новым — 232.[3] Пасля верасня 1939 года, пры савецкай уладзе, кнігі Генрыка Эдэра сталі непатрэбнымі і іх палілі. Захаваліся адзінкавыя асобнікі.

**Сяргей Ёрш**


BOTANIKA LEŚNA

na podstawie skryptu
Prof. Jana Kloski i Józefa Rosińskiego

opracował
Henryk Eder

Na prawach rękopisu
do wyłącznego użytku uczniów Wydziału Leśnego
Państwowej Średniej Szkoły Rolniczo-Leśnej
w Żyrowicach.

Żyrowice 1934 r.


BOTANIKA LEŚNA

OPRACOWAŁ
HENRYK EDER

NA PRAWACH RĘKOPISU DO WYŁĄCZNEGO UŻYTKU UCZNIÓW
WYDZIAŁU LEŚNEGO PAŃSTWOWEJ ŚREDN. SZKOŁY ROLNICZO-LEŚNEJ
W ŻYROWICACH

1936

SŁONIM
DRUKARNIA CHRZEŚCIJAŃSKA, ULICA 3-go MAJA Nr. 20
1936

*1. H. Średnia Szkola Rolnicza w Żyrowicach koło Słonima // Zycie Nowogrodzkie, 1927, № 11, 23 ліпеня, с. 5-6.*

*2. Szmit B. J. Dwie zapomniane „Botaniki Leśne” autorstwa Henryka Edera // Rocznik dendrologiczny. 2007. № 55, с. 187. Крыніца доступу: http://pbsociety.org.pl/ind/rd/artykuly/vol55/szmit.pdf*

*3. Тамсама, с. 188.*

*Слонімскія карэспандэнцыі*

# Як чапялёўская моладзь марыла пра стварэнне беларускага тэатру

З гэтага нумару распачынаем новую рубрыку, у якой будзем змяшчаць колішнія допісы нашых землякоў у газеты і часопісы Вільні, Мінску ці Варшавы. Падобныя рубрыкі існуюць у мясцовай прэсе з 1990-х. Мы ж будзем старацца, перадрукоўваючы матэрыялы, якім 100, 70 ці 50 гадоў, дапаўняць іх, удакладняць. Тое самае могуць рабіць і нашыя чытачы, калі пабачаць знаёмыя прозвішчы, калі яны чулі пра падзеі, пра якія вядзецца гаворка. З такіх згадак будзе паступова складацца мазаіка жыцця нашых дзядоў і прадзедаў.

Шлях Моладзі

“Чапялёва, Слонімскага пав[ету]. На другі дзень праваслаўных Каляд моладзь наша ладзіла беларускае прадстаўленне. Ставілі “На полацкім замчышчы”. Людзей было вельмі многа. Прадстаўленьне ўдалося добра. У нас ужо ставілі бадай усе беларускія п’есы. Моладзь наша думае сарганізаваць драматычны гурток з мэтаю перайсьці пасьля на беларускі аб’яздны тэатр.

***Воўк***

*Шлях моладзі (Вільня), 1936, № 1, студзень, с. 15.*

Безумоўна, дзейнасць беларускага асяродку ў Чапялёве ў міжваенны час — гэта цікавая і важная тэма. Будзем збіраць матэрыялы, хочацца расшыфраваць і псеўданім карэспандэнта. А пакуль адзначым, што Народны дом у Чапялёве, дзе і адбываліся ўсе падобныя імпрэзы, быў адкрыты 18 кастрычніка 1931 года. Пабудавалі яго пры падтрымцы мясцовых уладаў самі вяскоўцы. Будынак асвячаў праваслаўны святар Фёдар Комар, які прыехаў з Шылавічаў. На ўрачыстасць завіталі і жыхары суседніх вёсак, агулам сабралося каля 500 чалавек. Яны пабачылі аматарскую беларускамоўную пастаноўку “Суд”. А пасля было святкаванне да самага ранку...

**С. Ё.**

*Літаратура*

# Невядомы аўтабіяграфічны твор Сяргея Хмары



Пра беларускага паэта, журналіста, палітыка, шматгадовага вязня польскіх, савецкіх і нямецкіх турмаў Сяргея Сіняка (псеўданім — Сяргей Хмара, 1905 — 1992) апублікавана ўжо нямала: удалых публікацый і не вельмі, пазітыўных і негатыўных. Найбольш плённым перыядам у творчасці ўраджэнца Казлоўшчыны былі 1920-1930-я гады. Нягледзячы на частыя арышты, ператрусы, турэмнае зняволенне, ён шмат публікаваўся ў віленскіх беларускіх выданнях, прычым у самых папулярных (часопісы "Шлях моладзі", "Калосьсе"). У 1939 годзе ў Вільні выйшла яго невялічкая кніга вершаў "Жураўліным шляхам". Значная частка апублікаваных твораў С. Хмары, у тым ліку і ў паваенны час на Захадзе, некалькі гадоў таму была сабраная пад адну вокладку Сяргеем Чыгрыном.*

Аднак высвятляецца, што нямала твораў паэта міжваеннага часу не былі апублікаваныя. І не з меркаванняў іх нізкай мастацкай якасці. Наадварот, было шмат выдатных твораў. Але рэдакцыі не маглі іх прапусціць у друк з цэнзурных меркаванняў (у сэнсе іх палітычнага зместу, заклікаў і г. д.). А нярэдка ў часопісах проста не хапала месца — таленавітых паэтаў было нямала ў Заходняй Беларусі...

У гэтым нумары "СК" упершыню публікуецца празаічны твор Сяргея Хмары "Сымонка", рукапіс якога быў адшуканы аўтарам гэтых радкоў у архіўных зборах Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Акадэміі навук Беларусі. Ён аўтабіяграфічны. Відавочна, што Хмара пісаў пра сябе, пра вяртанне на радзіму з бежанства, пра галоднае юнацтва, пра сталенне хлапчука, які з часам вырас у змагара за народныя правы. "Сымонка" дапамагае зразумець, у якіх жыццёвых абставінах фармавалася асоба таленавітага паэта, які пакінуў прыкметны след у заходнебеларускай літаратуры.

Твор С. Хмары друкуецца з захаваннем правапісу арыгіналу і моўных асаблівасцяў аўтара. На рукапісе ёсць пазнака невядомага рэдактара, які ў студзені 1939-га прапаноўваў надрукаваць "Сымонку" ў "Шляху моладзі" альбо ў "Калосьсі". Аднак атрымалася так, што публікацыі ён чакаў амаль 80 гадоў.

**Сяргей Ёрш**

**Сяргей Хмара. Рабінавы хмель: выбраныя творы. — Мінск: Кнігазбор, 2009.*

# Сымонка

Выгнаў Сымонка скаціну ў поле. Выгнаў. Каля рэчкі вадою сцюдзенаю вочы спаласнуў, скібачку хлеба далей за пазуху засунуў і запеяў. Запеяў аб нядолі парабецкай. Аб галодных, хмурых днях, аб курчоўскім[1] прыгоне...

Ой нікому, ой нікому
Як батраку маладому
Гэй, гэй! Як батраку маладому!

Рвалася сумная песня — як тая доля батрацкая — недзе ў вышыне... Блыталася ў гальлі недалёкага галешніка... Плакала над мостраным ручаем...

Гэй, гэй! Як батраку маладому!..

Цяжкая доля батрацкая... Пяе Сымонка й перад вачыма ўсплываюць абразы мінулага...

...Грукаюць [г]арматы... бух-бух, бух-бух... Б'юцца!

Па дарозе жанчына і двое дзяцей[,] учарэпіўшыхся за матчыну спадніцу...

Мама[,] ногі баляць!.. Мама[,] есці!.. Бухаюць недзе [г]арматы... бух-бух... бух-бух...

Нідзе ні хаты. Нідзе ні чалавека... Сонца паліць... Лье свае праменні расплаўленым золатам на зямлю... А яны ідуць. Ідуць на бацькаўшчыну. Ідуць ужо другі тыдзень. Набраклі ногі, пашарэла з галадухі аблічча... апусцілі[2] сілы...

І вось яна[,] бацькаўшчына! Хата з павыдзіранымі вокнамі... шкілетам страхі... разваленым комінам... і некалькі дзесяткаў сажняў пялекі[3] за хатамі...

Людзі: або зверы — курзаўё, або такая самая галіта галодная.

За кошык бульбы — дзень адробку; за 3 фунты[4] мукі[,] выжабраванай на каленях як ласку — дзень адробку.

Голад. Берперарыўны голад. Голад[,] скручваючы кішкі... выцягваючы апошнія капліны крыві із аблічча... раз'ядаючы цынгою дзёсны...

Голад[,] з якога выецца дзікім зверам... Голад.

Змерзлая на мязгу бульба[5], падабраная пры панскім капцу... буракі... Печ[,] апальваная ялаўцом... Холад! — Сарочка без змены... вошы...

Вясна. Гнілую бульбу замяняе крапіва... лебяда. Часам заробленая крывавым потам з курчоўскай мукі — зацірка... ізноў лебяда... бацвінне...

Знойдзеная на дарозі бульбіна — цэлы баль! — У печку, у прысак. Потым з гонарам на стол — на тры часціны!.. Смачная!..

...Пастух. Белай посцілкаю акрыла палі марозная шэрань. Другія пастухі ў хадаках, у цёплых сярмяжках. У яго падраная марынарачка на плячох... босы... няма нат лазовых лапцей!..

Замест ног як бы мёртвыя дзеравяшкі... не чуе... па шэрані босы... Потым марынарку з сябе, ногі ў марынарку... Боль голкамі аж у мазгох... слёзы наперакор волі валяць з вачэй — гаручыя слёзы... больна... і крыўдна...

Першыя заработкі ў абшарніка ў садзе. Абед. Работнікі выцягваюць хлеб, сала. Сымонка нічога не мае. У хаце рана зацірка... вечарам будзе лебяда... а абеду няма. Запрашаюць есці... Чамусь сорамна... У кут — далей ад людзей...

У алеі сада пад клёнамі дзікі часнык, вераб'іны шчавель... Сымонка абедае.

Панскае паляванне. Дзік. Мяса — сабакам. Кавалак гатаванага мяса ў карыце. Сабакі ланчыва рвуць кускі. Пах гатаванага мяса закруціў, як бы гастраком асцёну ў трыбусе[6]... Слюнёю ў перасохшым горле — мяса!

Гырчаць сабакі... але часціну унёс з сабой у кусты Сымонка...

Падзяліўся з сабакамі!..

Першы шалёны выбух пачуцця крыўды... ненавісці... да тых[,] у каторых сабакі жывуць лепш за бедных людзей...

...Пяе Сымонка. Фільмоваю стужкаю плывуць успаміны перад вачыма. Пастух аканома... Камень у замахнуўшайся руцэ... Спрабуй гад!... чапі!.. Кончылісь заробкі...

І зноў курчоўскае стада. Капуста са зчарвелым леташнім салам... Чэрві жмутамі ў місцы. Падступае некі ком пад горла... і глузлівыя прытыкі гаспадара-курча: Што[,] не смашнае?! О[,] ён панскае пароды! Яму далікатасы дай!..

Доля, доля батрацкая!..<br>
Гой вы валы палявыя<br>
Ешце, пейце і рыкайце<br>
Батрацкую долю знайце!..<br>
нясецца песня над палямі.

Гэй, гэй! Батрацкую долю знайце!..

Замірае ў далёкім лузе.

Струхануў раптам галавою, як бы струхваючы з сябе балючыя ўспаміны[,] выкліканыя песняй. То ж знае ён ужо сёння дарогу да новых, святлейшых дзён! Дзе не будзе батрацкай нядолі... Страшлівых да жудасці дзён[,] упіваючачася ў горла сталёвымі капцюрамі — голада.

Знае ўжо ён:

..."Што трэба рабіць".

...Усходзіла праменнямі залатымі — граючы — Сонца.

*Казлоўшчына*

**С. Хмара**

[1938 г.?]

*1. Верагодна, маецца на ўвазе "кулацкім". Г. зн. Сымонка быў парабкам у заможнага селяніна.*
*2. Пакінулі.*
*3. Сажань — састарэлая адзінка вымярэння. Калі гаворка ідзе пра прамы сажань (адлегласць паміж канцамі пальцаў распрасцёртых рук), то гэта 1,5-1,7 метра. Пялека — неўрадлівая зямля. Балтызм, распаўсюджаны на паўднёвым усходзе Гродзеншчыны.*
*4. 1 фунт — 0,4 кг.*
*5. Кашападобная маса.*
*6. "Скруціла" жывот.*

# Невядомае пра Гальяша Леўчыка




Зусім не даследавана супрацоўніцтва слонімскага паэта Гальяша Леўчыка (Ляўковіча, 1880 — 1944) з варшаўскім беларускім рэлігійным (уніяцкім) часопісам "Złučeńnie" ("Злучэньне"). Ён выдаваўся ў 1938 годзе на лацінцы, рэдактарам быў айцец Антон Неманцэвіч, які раней служыў у Альбярціне, рэдагаваў там беларускамоўны часопіс "Да Злучэньня!". Яшчэ ў пачатку 1930-х ён мог пазнаёміцца з Леўчыкам. Калі ж Неманцэвіч пачаў выдаваць у польскай сталіцы новае выданне, ён прыцягнуў да супрацоўніцтва прадстаўнікоў розных канфесій. Гальяш Леўчык быў метадыстам, але і ён пагадзіўся падтрымаць беларускамоўны праект.

У 10-м нумары "Złučeńnia" за кастрычнік 1938 года намі выяўленая невялічкая публікацыя паэта:

"Сілы і магутнасьці духа ніхто ня зломіць, і над крыўдаю мусіць запанаваць Праўда, і асьвяціць ўсе цёмныя куты чалавечага жыцьця. Г. Леўчык".

Побач з філасофскім разважаннем Гальяша Леўчыка пад рубрыкай "Прачытай, падумай і другому скажы" ў гэтым нумары падаваліся і іншыя падобныя тэксты, але ўжо без подпісу. Была ў часопісе рубрыка "Жарты", якую мог весці якраз слонімец.

Адзначым, што філасофскае разважанне Леўчыка мае агульныя матывы з ягонымі празаічнымі творамі "Хараство" і "Чалавек", напісанымі ў 1932 годзе.

**С.Ё.**

**1 красавіка** 1909 года ў вёсцы Пляшкі (цяпер — Партызанаўка) нарадзіўся Аляксандр Асіпчык, дзеяч беларускай эміграцыі ў ЗША.




**4 красавіка** 1557 года на Віцебшчыне нарадзіўся Леў Сапега, дзяржаўны дзеяч Вялікага княства Літоўскага, слонімскі староста (з 1586 года), які зрабіў наш горад важным цэнтрам у ВКЛ. У Слоніме ёсць плошча Сапегі (каля касцёла святога Андрэя), сёлета мясцовыя ўлады плануюць усталяваць у цэнтры горада помнік.

**4 красавіка** 1911 года у в. Касцяні нарадзіўся Сяргей Багданчук, удзельнік нацыянальна-вызваленчага руху ў міжваенны час. Закатаваны польскай паліцыяй у свой дзень нараджэння ў 1933-м на Брэстчыне.

**5 красавіка** 1923 года ў в. Старыя Дзевяткавічы нарадзіўся Барыс Данілюк, дзеяч беларускай эміграцыі ў ЗША, царкоўны дзяяч. Аўтар кнігі ўспамінаў "Азіраючыся расой выетымі вачыма" (Мінск, 2012). Памёр 28 студзеня 2011 г., пахаваны на беларускіх могілках у штаце Нью-Джэрсі.



**10 красавіка** 1931 года ў Чамярах нарадзіўся Іван Чыгрын, беларускі паэт, літаратуразнаўца. Жыў у Мінску, памёр 21 жніўня 2006 г.

**17 красавіка** 1962 года быў ліквідаваны Зэльвенскі раён, у склад Слонімскага раёна перадалі Галынкаўскі, Казловіцкі, Кастровіцкі, Плецяніцкі сельсаветы. Праз чатыры гады Зэльвенскі раён аднавілі і згаданыя сельсаветы вярнулі ў яго склад.

*Каляндар*

## Красавік

**19 красавіка** 1907 года ў Вялікай Кракотцы нарадзіўся Рыгор Акулевіч, актывіст беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, дзяяч беларускай эміграцыі ў Канадзе.



**20 красавіка** 1758 года на Слонімшчыне нарадзіўся Язафат Булгак, беларускі царкоўны дзеяч, уніяцкі полацкі архіепіскап. Да самай сваёй смерці 25 лютага 1838 г. супрацiўляўся ліквідацыі расійскімі ўладамі Уніяцкай Царквы.

**24 красавіка** 1968 года адбылося зліццё наступных населеных пунктаў: Вялікія і Малыя Шылавічы сталі вёскай Вялікія Шылавічы, Жыровічы і Стайкі сталі в. Жыровічы, Вялікая і Малая Кракотка — вёскай Вялікая Кракотка.

**24 красавіка** 1997 года выйшаў першы нумар штотыднёвіка "Газета Слонімская".

**27 красавіка** 1913 года ў вёсцы Какошчыцы Слонімскага раёна нарадзіўся Іван Дабрыян, удзельнік беларускага нацыянальна-вызваленчага руху ў 1930-я гг., антыфашысцкага партызанскага руху, старшыня Слонімскага райвыканкама (1944-1945) і Слонімскага гарсавета (1947-1950). Памёр 22 студзеня 1970 г.

**27 красавіка** 1947 года ў Мінску памёр Валянцін Таўлай, беларускі паэт, лёс якога цесна звязаны са Слонішчынай. Пахаваны на вайсковых могілках сталіцы.



**30 красавіка** 2007 года ў Слоніме памёр паэт, гісторык, археолаг, адзін з кіраўнікоў антысталінскага беларускага маладзёжнага падпольнага руху (арганізацыя "Чайка") Васіль Супрун.

У **красавіку** 1965 года каля вёскі Новая Стража завяршыўся мантаж цэнтральнага збудавання рэтрансляцыйнай тэлевізійнай станцыі — 350-метровай мачты. Раённая газета адзначала, што слонімская вышка вышэй за парыжскую Эйфелевую вежу на 45 метраў.

*Пошта*



*Анатоль Бутэвіч. Крыніца: budzma.org*

На з'яўленне нашага выдання адгукнуўся Анатоль Бутэвіч, беларускі дзяржаўны дзяяч (у 1990-я ён быў міністрам інфармацыі, міністрам культуры і друку, дыпламатам), пісьменнік, краязнавец. Анатоль Іванавіч напісаў на нашую пошту: *"Вялікі дзякуй за бюлетэнь, а яшчэ больш — за тое, што вы робіце. Малайцы. Хай спрыяе вам Бог і людзі"*.

**Слонімскі край**
Краязнаўчы бюлетэнь
Выдаецца з лютага 2016 года

Адрас для карэспандэнцыі:
slonimskikraj@gmail.com
Пры перадруку спасылка на СК абавязковая
Наклад 100 асобнікаў

Заснавальнікі і выдаўцы:
Васіль Герасімчык (рэдактар нумару)
Сяргей Ёрш
Сяргей Чыгрын